наша свабода

№45(132) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

4 ТРАЎНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# «Пяцёрка» заяўляе прыярытэты

*Учора пяцёра патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты ад апазіцыі – Павел Казлоўскі, Уладзімір Ганчарык, Міхаіл Чыгір, Сяргей Калякін і Сямён Домаш – правялі сустрэчу з прэсай, каб патлумачыць стратэгію і тактыку сваіх дзеянняў напярэдадні выбараў. Фармальнай падставай для сустрэчы з прадстаўнікамі мас-медыя стаўся падпісаны 25 красавіка зварот да грамадзянаў Беларусі, які з'яўляецца дэкларацыяй аб намерах «пяцёркі» да рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты. Пяцёра патэнцыйных кандыдатаў заявілі пра аб'яднанне сваіх намаганняў дзеля перамогі на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах.*



Фота Ул. ШЛАПАКА

***– Чаму перадвыбарную кааліцыю прадстаўляюць адразу пяць кандыдатаў?***

**Павел КАЗЛОЎСКІ:** Рух, які прадстаўляе амаль увесь палітычны спектр Беларусі, безумоўна, мае больш перавагаў, чым рух адзіночак. Таму я ўпэўнены ў тым, што дамоўленасць пяці чалавек пра каардынацыю нашых сумесных дзеянняў дазволіць вырашыць галоўную задачу, азначаную ў нашым звароце: прыйсці да перамогі ў гэтым годзе – годзе прэзідэнцкіх выбараў.

***– Ці ведаеце вы самі, хто з вас стане адзіным кандыдатам у прэзідэнты?***

**Сяргей КАЛЯКІН:** Мы ўпэўненыя ў тым, што адзін з нас абавязкова стане прэзідэнтам. І менавіта для перамогі на прэзідэнцкіх выбарах, каб Беларусь атрымала ўвосень 2001 года новага прэзідэнта, і дасягнутае гэтае пагадненне.

***– Якая Канстытуцыя – 1994 ці 1996 гадоў – будзе дзейнічаць у выпадку перамогі апазіцыйнага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах? Ці будзеце Вы пасля перамогі праводзіць датэрміновыя выбары ў парламент?***

**Сямён ДОМАШ:** Я прыхільнік таго, каб было зроблена канстытуцыйнае пагадненне, каб мы маглі дамовіцца з асноўнымі палітычнымі і грамадскімі сіламі – па якім шляху пойдзе развіццё нашай дзяржавы і нашай улады.

**Міхаіл ЧЫГІР:** Я лічу, каб было меней рознагалоссяў па Канстытуцыі – ці то 1994, ці то 1996 гадоў, – мы павінны зыходзіць з таго, што нам патрэбная новая Канстытуцыя. Што да парламента, то асабіста я лічу, што найлепшым варыянтам было б, каб мы змаглі забяспечыць правядзенне сумленных, адкрытых, справядлівых парламенцкіх выбараў праз пэўны час пасля абрання новага прэзідэнта.

**Уладзімір ГАНЧАРЫК:** Неабходнасць унясення змяненняў у дзеючую Канстытуцыю відавочная, хоць бы для ўстанаўлення рэальнага балансу ўладаў.

**Павел КАЗЛОЎСКІ:** Я лічу, што мусіць быць рух наперад, а не вяртанне да Канстытуцый 1994 ці 1996 гадоў. Таму, магчыма, трэба будзе разглядаць новы праект Канстытуцыі пасля дэталёвай падрыхтоўкі гэтага пытання, шырокага абмеркавання ў грамадстве... Што да парламента, то ён мусіць быць абраны, і галоўнае ў гэтым – гэта дэмакратычныя, празрыстыя выбары.

**Сяргей КАЛЯКІН:** Канстытуцыйная рэформа сапраўды неабходная, як неабходная рэформа і ўвогуле дзяржаўнага будаўніцтва. Гэты працэс досыць зацяжны, ён не будзе аднамомантным актам, і я салідарны з тым, што было сказана папярэднімі выступоўцамі.

Неабходна выпрацоўваць новы канстытуцыйны лад, адначасова пасля выбараў прэзідэнта выпрацоўваючы новае выбарчае заканадаўства, якое дазволіла б рашыць самае галоўнае пытанне: выключыць магчымасць умяшальніцтва выканаўчай улады ў выбарчы працэс, каб уплываць на волевыяўленне грамадзянаў.

***– Як Вы збіраецеся кіраваць дзяржавай? Пры дапамозе дэкрэтаў і ўказаў, пры дапамозе ўрада, парламента ці будзе часова ўстаноўлены перыяд адзінаўладдзя?***

Заканчэнне на стар.3

## Злачынцу завуць Уладзімір

У мінулым нумары НАШАЙ СВАБОДЫ на гэтым месцы была надрукаваная інфармацыя пра чалавека, які 21 красавіка пасля акцыі нефармальнага руху «Зубр» біў у РУУСе студэнтку Кацярыну Шабан. Вось як яна гэта апісвае ў сваёй іскавай заяве ў суд:

«Чалавек у штацкім размахнуўся і з усяе моцы стукнуў мяне па галаве. Я адляцела да сцяны і ўдарылася галавой аб гэтую сцяну. Я пачала крычаць, што мяне б'юць. Потым убачыла, што ён ухмыляючыся ідзе на мяне. У мяне ў вачах пацямнела, у галаве зашумела. Пачало ванітаваць, і я згубіла прытомнасць. Апрытомнела пазней ад страшнага ўдару галавой аб падлогу...»

Гэты чалавек – лейтэнант міліцыі Новікаў. Інфармацыя падавала яго імя як Аляксандр. Насамрэч яго завуць Уладзімір Новікаў. Яму 25 гадоў. Нарадзіўся ён у вёсцы Гайна Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Бацька яго – старшыня тамашняга сельсавета. Пасля заканчэння школы паступіў у Мінскі педінстытут на фізічны факультэт. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю настаўніка, па размеркаванні ваенкамата трапіў служыць ва ўнутраныя войскі, адтуль пайшоў працаваць у міліцыю, у прыватнасці, у Партызанскі РУУС Мінска. Пражывае ў Мінску ў адным з інтэрнатаў па вуліцы Сямашкі. Працоўны тэлефон **230-23-68**.



Такім чынам, вы ведаеце ўсё пра Уладзіміра Новікава, як засведчана Кацярынай Шабан, б'е людзей галавой аб сцяну, карыстаючыся службовым становішчам. Нязгодныя з такімі злачынствамі міліцыі могуць патэлефанаваць яму на працу і спытаць, навошта ён гэта робіць, альбо напісаць ліст ягоным бацькам (адрас **Мінская вобласць, Лагойскі раён, в.Гайна, Новікаву, старшыні сельсавета**), можа яны возьмуцца за выхаванне сына чалавекам.

А пакуль што Уладзімір Новікаў працягвае ў РУУСе сваю службу парадку. Хто будзе той чарговы, каму лейтэнант сатрасе мазгі аб сцяну, пакуль невядома.

**Аддзел інфармацыі**

### У Беларусі будзе АЭС?

Паводле кіраўніка канцэрна «Белэнерга» Яўгена Мішука, «у перспектыве Беларусь не пазбегне будаўніцтва на сваёй тэрыторыі АЭС». На ягоную думку, гэта давядзецца рабіць праз 10-15 гадоў.

Зараз Беларусь імпартуе блізу 20% электраэнергіі, якую спажывае.

### ВНУ чакаюць лета

Сёлета вышэйшыя навучальныя ўстановы, што ўваходзяць у сістэму міністэрства адукацыі, прымуць на бюджэтную форму навучання прыкладна 21 тысячу чалавек. Разам з тым колькасць патэнцыйных абітурыентаў з атэстатам аб сярэдняй адукацыі складзе ўлетку 95 тысяч чалавек.

### Таксі яшчэ больш падаражэла

Паводле пастановы міністэрства транспарту і камунікацыяў, з 28 красавіка ў Беларусі на 7,3% узраслі тарыфы на таксаперавозку. Кошт аднаго кіламетра і пасадкі цяпер складае 295 рублёў удзень і 440 рублёў уначы. Выклік таксі абыдзецца адпаведна ў 200 рублёў і 300 рублёў.

### Прамысловасць Магілёўшчыны гібее

Зараз на Магілёўшчыне 766 прадпрыемстваў працуюць са стратамі. Гэта 52,4% ад іх агульнай колькасці ў вобласці. Стратаў налічана на 15 мільярдаў рублёў. Пры гэтым рэнтабельнасць прамысловых прадпрыемстваў знізілася з 6 да 3,4%. А вось страты працоўнага часу павялічыліся больш як на 30%.

# Асцярожна! Драпежнік!

*3 траўня адзначаецца ва ўсім свеце як Міжнародны дзень свабоды прэсы. Сёлета гэты Дзень праводзіўся 11-ты раз*

*З гэтай нагоды арганізацыя Reporteurs sans frontieres («Рэпарцёры без межаў»), якая аб'ядноўвае журналістаў з усяго свету, падрыхтавала спіс ворагаў свабоды слова. У яго ўвайшлі 26 лідэраў дзяржаваў, 2 кіраўнікі паўстанцкіх груповак у Калумбіі і дзве арганізацыі тэрарыстычнага ладу. Адным з персанажаў «чорнага спісу» з'яўляецца і беларускі кіраўнік Аляксандр Лукашэнка.*

*Reporteurs sans frontieres* знайшла вельмі дакладнае слова для абазначэння ворагаў прэсы – драпежнікі. «Супраць свабоды прэсы ёсць драпежнікі. Давайце даведаемся, як іх апазнаць», – гаворыць слоган *RSF*, які размешчаны над партрэтамі ворагаў. Дарэчы, адно фота адсутнічае – кіраўніка руху «Талібан» Махамада Амара Ахунзада, які разам з сваімі папечнікамі захапіў пяць гадоў таму ўладу ў Афганістане. Замест фотаздымка – чорны квадрат з тэкстам «Фатаграфаваць забаронена пад пагрозай смяротнага пакарання».

Нельга не прызнаць, што ў Беларусі для фатографаў умовы куды больш спрыяльныя – партрэт беларускага кіраўніка ў «Рэпарцёраў без межаў» ёсць. Яго суправаджае тэкст паведамлення пра барацьбу А.Лукашэнкі з прэсай. Вось некалькі вытрымак адтуль: «Журналісты часта арыштоўваюцца і ўтрымліваюцца на працягу некалькіх гадзінаў падчас шматлікіх апазіцыйных дэманстрацыяў, якія праводзяцца супраць новай канстытуцыі, што дазваляе прэзідэнту Лукашэнку заставацца пры ўладзе да 2001 года... У сакавіку 2000 года, напрыклад, былі арыштаваныя каля 15 журналістаў (насамрэч, больш. – **Р.П.**), якія асвятлялі апазіцыйную дэманстрацыю. Сярод іх былі прадстаўнікі замежных сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку карэспандэнты навіновых агенцтваў *AFP*, ИТАР-ТАСС, польскага тэлевізійнага канала, расійскіх тэлеканалаў НТВ, ОРТ і РТР, а таксама Радыё «Свабода»...» Узгадваецца таксама пра знікненне 7 ліпеня мінулага года аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага. Асобны параграф прысвечаны «інфармацыйнай палітыцы» беларускага кіраўніка: «Тэле- і радыёвяшчанне застаецца пад дзяржаўным кантролем. Нядаўна прэзідэнт нагадаў кіраўнікам тэлевізіі, што яны мусяць распаўсюджваць «дзяржаўную ідэалогію», дадаўшы, што ён не плануе прыватызаваць гэты сектар».

Побач з А.Лукашэнкам у шэрагу драпежнікаў стаяць ягоныя калегі-кіраўнікі дзяржаваў былой савецкай прасторы: Уладзімір Пуцін (Расія), Кірсан Ілюмжынаў (Калмыкія, Расія), Леанід Кучма (Украіна), Іслам Карымаў (Узбекістан) і Сапармурат Ніязаў (Туркменістан).

Не абышлася гэтая «цёплая кампанія» і без знакавых фігураў, якія ўжо доўгія гады лічацца ворагамі прэсы, – Садама Хусейна (Ірак), аятальы Хамейні (Іран), Кім Чэн Ира (Паўночная Карэя), палкоўніка Муамара Кадафі (Лівія), Фідэля Кастра (Куба), Цзян Цзэміня (Кітай). Цікава, што беларускі кіраўнік ганарыцца сваімі шчыльнымі стасункамі з шмат кім з іх.

Паасобку стаяць у спісе ворагаў прэсы баскская тэрарыстычная арганізацыя ЭТА, а таксама «мафія, што выкрадае людзей» з Чачні.

*Reporteurs sans frontieres* нагадвае, што летась 32 журналісты былі забітыя за тое, што выконвалі свае прафесійныя абавязкі або публічна выказвалі свае думкі. 329 рэпарцёраў было арыштавана, больш чым паўтысячы атрымалі пагрозы з свой бок або сталі ахвярамі нападаў. Сёлета ўжо чатыры журналісты былі забітыя за выкананне сваёй працы. 86 знаходзяцца за кратамі.

*RSF* пачала масавую кампанію па барацьбе з «драпежнікамі» яшчэ ў мінулую пятніцу. Партрэты ворагаў прэсы былі развешаныя ў французскіх кнігарнях, што належаць канцэрну *FNAC*.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

### НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

### Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1365

# ЗША абвяргаюць Лукашэнку

Амерыканская амбасада абвергла заяву А.Лукашэнкі, якую ён зрабіў падчас вандроўкі ў чарнобыльскую зону. Тады ён сказаў, што «ў справе ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС Беларусі не дапамагае ніводная дзяржава – увесь цяжар чарнобыльскіх праграмаў краіна нясе сама».

Амбасада ЗША распаўсюдзіла прэс-рэліз, дзе даводзіць, што «на працягу апошніх 15 гадоў урад ЗША і шэраг амерыканскіх няўрадавых арганізацыяў бралі актыўны ўдзел у аздараўленні беларусаў і наогул у паляпшэнні сітуацыі ў Беларусі». Было нагадана, што толькі летась Злучаныя Штаты адправілі ў Беларусь гуманітарнай дапамогі на 15 мільёнаў долараў, а зараз завяршаюць рэканструкцыю гомельскага шпіталю, якая абышлася ў 450 тысячаў долараў.

**Алесь КАТОВІЧ**

# Квота на ўцекачоў – 100 чалавек

Урадам усталяваныя квоты прыёму ўцекачоў для пасялення ў Беларусі на 2001 год. Квоты на Віцебскую і Гомельскую вобласці сёлета складуць па 15 уцекачоў, на Брэсцкую і Магілёўскую — па 16, Гродзенскую і Мінскую — па 19. Аблвыканкамам даручана вызначыць жытловыя памяшканні для часовага пражывання бежанцаў, што не маюць магчымасці самастойна пасяліцца ў нашай краіне. Разам з тым уцекачам і іхнім сем'ям будзе выдзеленая аднаразовая дапамога ў памеры адной мінімальнай заработнай платы – 5.700 рублёў.

У параўнанні з леташнімі нормамі гасціннасці нічога не змянілася. У выглядзе сацыяльнай дапамогі засталася тая ж «мінімалка» (тыя, хто мае асабліва вялікую патрэбу, маглі прэтэндаваць на 2-4 мінімальныя заробкі). Колькасная ўцякацкая квота на пасяленне ў Беларусі, як і летась, таксама склала 100 чалавек. Дарэчы, якраз з мінулага года ўцекачы не могуць абжывацца ў Мінску. Раней на сталіцу прыпадала да 90% усіх зваротаў па афіцыйны статус уцекача. А наогул зараз у Беларусі яго маюць 520 чалавек.

**Алесь КАТОВІЧ**

# На мытні – хаўруснікі кантрабандыстаў

Табельную зброю давялося выкарыстаць у зоне мытнага кантролю пункта пропуску «Брэст –Цэнтральны» супрацоўнікам Брэсцкага абласнога ўпраўлення КДБ пры затрыманні грамадзяніна Расіі, які падазраваўся ва ўтойванні ад дэкларавання вялікай грашовай сумы валюты. Ужо пасля мытнага кантролю ў вагон цягніка на Варшаву, дзе ехаў расеец, паўсталі людзі ў цывільным. Той заняў кулачную абарону і ігнараваў дэманстрацыю перад ім баявога пісталета. Рызыкаваць прымушалі 150.000 долараў, якія былі затым выяўлены пры асабістым доглядзе арыштаванага.

У каментарыі да гэтага здарэння прэс-сакратар УКДБ па Брэсцкай вобласці Васіль Шапяцюк не стаў хаваць, што чэкісты ішлі па слядах атрыманай імі інфармацыі аб існаванні сярод брэсцкіх мытнікаў хаўрусніка кантрабандыстаў, перапраўляючых валюту праз нелегальны канал з Расіі на Захад.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Першага траўня — свята не для ўсіх






Фота REX/ProMedia

Першага траўня стары чалавек, інвалід Ігнат Марціновіч прыйшоў у мінскі парк імя Горкага, дзе праводзілася народнае гулянне, прысвечанае Міжнароднаму дню працы, міру, вясны, і разгарнуў плакаты, выкананыя на картонных скрынках. Напісаныя на іх былі ягоныя думкі аб набалелым. Каму мог перашкаджаць у парку стары і не надта здаровы чалавек? Які закон ён парушыў, што да яго рушыла міліцыя, а потым нейкая баявая пяцёрка ў цывільным. Гэтыя невядомыя, як паказваюць здымкі, прымянялі да старога чалавека сілу, а міліцыя моўчкі назірала супрацьзаконныя дзеянні таямнічай групоўкі. Неўзабаве стала зразумелым, каму мог сапсаваць першамайскі настрой сваімі плакатамі Ігнат Марціновіч. Пагуляць з народам выйшаў галава прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч. Яму было добра на душы, ён смяяўся. Можа, з таго, як валаклі з парку старога абаронцу інвалідаў.

# Вуліца імя «капіталіста»

Заснаванае прыватным капіталам у 6,5 мільёнаў долараў брэсцкае СП «Санта Брэмар» 5 траўня адкрывае свой новы рыбаперапрацоўчы комплекс. У выніку працай будзе забяспечана больш як 400 чалавек. Геаграфія экспарту прадукцыі рыбаперапрацоўкі пашырыцца на Узбекістан, Казахстан і Украіну.

На жаль, такога плёну ад прадпрымальніцтва не давядзецца пабачыць заснавальніку фірмы Міхаілу Машэнскаму, які памёр з-за сардэчнага прыступу ў траўні 2000 года. Да гадавіны смерці свайго работадаўцы калектывы вытворчых цэхаў «Санта Імпэкс Брэст», «Санта Брэмар», 11 фірмовых крамаў, а таксама абласны Саюз прадпрымальнікаў некалькі разоў звярталіся ў Брэсцкі гарвыканкам з просьбай назваць адну з новых вуліцаў горада іменем Машэнскага. Вынік – гэтак будзе называцца вуліца ў Кацiным Бары, што месціцца ў межах свабоднай эканамічнай зоны «Брэст».

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

# Дадатковае мыта

З 1 траўня, паводле рашэння Гродзенскага аблвыканкама, пры перасячэнні на аўтамотатранспарце беларуска-польскай мяжы праз кантрольна-прапускны пункт «Брузгі» збіраецца мыта ў памеры 400 рублёў з кожнага чалавека. Плата бярэцца для таго, каб акупіць выдаткі па камунальным абслугоўванні грамадзян, якія перасякаюць мяжу, утрымліваць у належным санітарным стане тэрыторыі, што прылягаюць да мяжы, інжынерныя сеткі і збудаванні памежнага пераходу «Брузгі».

Як паведамілі карэспандэнту ва ўпраўленні жыллёва-камунальнай гаспадаркі Гродзенскага аблвыканкама, заплаціць збор можна адразу на мяжы ў кіёсках прадпрыемства «Мяжа». Падобная сістэма збірання грошай ужо дзейнічала ў памежпункце «Брузгі» два гады таму, аднак праіснавала яна толькі адзін месяц.

**Павел МАЖЭЙКА, БелаПАН**

ЭКАЛОГІЯ

# Атакуюць мошкі-забойцы

Ветэрынарныя службы Ляхавіцкага, Ганцавіцкага, Лунінецкага і іншых раёнаў Палесся вымушаныя зараз абмяжоўваць тэрміны знаходжання буйной рагатай жывёлы на адкрытым паветры. У цёплае сонечнае надвор'е тут зноў актывізавалася полчышча машкары. Самкі-крывасмокі атакуюць кароў, коней і маладняк, паколькі свежая кроў ім патрэбная для поўнага яйкароднага выспявання.

Спецыялісты-энтамолагі прагназуюць развіццё сітуацыі, блізкай да вясны 1999 года, калі толькі на Брэстчыне ад хваробы сімуліідатаксікозу (узнікае ад пакусаў) загінулі больш 70 жывёлінаў з фермаў і прыватных гаспадарак.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Забойства акцёра

Праваахоўныя органы Магілёва вядуць расследаванне забойства Уладзіміра Саўчыкава — вядучага акцёра Магілёўскага абласнога тэатра.

Трагедыя адбылася ў ноч з 28 на 29 красавіка, пасля спектакля «Турандот», у якім Уладзімір Саўчыкаў выконваў галоўную ролю прынца Калафа. Паводле папярэдняй інфармацыі, акцёр выйшаў ненадоўга з будынка тэатра, але назад не вярнуўся. Праз некаторы час яго знайшлі ляжачым на ходніку са слядамі гвалтоўнай смерці. Расследаваннем займаюцца супрацоўнікі абласнога УУС і пракуратуры. Уладзімір Саўчыкаў пахаваны ў Шклове.

**Канстанцін УВАРАЎ, БелаПАН**

# Адны спявалі, другіх хапалі

2 траўня пачаўся суд над лідэрам гродзенскай Маладой Грамады Валянцінам Аскіркам. Ён быў затрыманы міліцыяй на першамайскім мітынгу, які праводзіўся ўладамі. Міліцыянты схапілі яго за тое, што ў яго быў сцяг Народнай Грамады. Судовы разбор працягнецца на наступным тыдні. У якасці міліцэйскіх сведак вырашана выклікаць пенсіянераў, якія былі на мітынгу.

Сёлетні першамайскі мітынг у Гродне стаў беспрэцэдэнтным з увагі на маштабную міліцэйскую аперацыю. І напярэдадні мітынгу, і падчас яго людзі ў цывільным і ў форме бесцырымонна хапалі людзей, пераважна моладзь. Святлану Нех з Маладой Грамады два дзябёлыя мужыкі цягнулі праз увесь пляц Леніна на вачах у мітынгоўшчыкаў. Уся віна С.Нех была ў тым, што яна прыйшла на мітынг з чырвоным сцягам з ружай усярэдзіне.

Пасля мітынгу з Ленінскага РАУС было выпушчана 15 чалавек, у ліку якіх былі два журналісты — намеснік рэдактара «Биржи Информации» М.Карневіч і П.Мажэйка з «Пагоні». Усіх іх пратрымалі па паўтарыдзве гадзіны. Апошнім адпусцілі В.Аскірку. Яго міліцыянты вазілі ў офіс Маладой Грамады, каб па дакументах пераканацца, што грамадаўскі сцяг афіцыйна зарэгістраваны. Аднак тады яму прыдумалі новую віну — што быццам бы хуліганіў і не падначальваўся міліцыі.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

АКЦЫІ

# «Хочам ведаць праўду!» –

## *акцыя пад такой назвай распачалася ў Беларусі*

Яе абвесціла Аб'яднаная грамадзянская партыя, яна прысвечаная лёсу палітычных ахвяраў беларускага рэжыму нечакана памерлых і зніклых за апошнія 5 гадоў. Першае мерапрыемства акцыі пройдзе 7 траўня. На месцы знікнення экс-міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі на вуліцы Магілёўскай у Мінску будзе ладзіцца пікет. Потым пікеты пройдуць у 30 рэгіёнах Беларусі.

Дарэчы, 70% тых грамадзянаў Беларусі, якія ведаюць пра знікненне Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Зміцера Завадскага і Анатоля Красоўскага, лічаць, што ў гэтых знікненнях вінаватыя ўлады. Але прыкладна палова насельніцтва ўвогуле не чула пра тое, што ў Беларусі знікаюць вядомыя апазіцыйныя палітыкі. На такія сацыялагічныя дадзеныя спасылаюцца арганізатары акцыі «Хочам ведаць праўду». Яны перакананыя, што толькі пасля змены ўлады стане вядома пра палітычныя злачынствы.

«Наша мэта, і мы пра гэта шчыра гаворым, – гэта як мага шырэй паведаміць пра тое, што адбылося ў кожным канкрэтным выпадку – з Генадзем Карпенкам, Юрыем Захаранкам, Віктарам Ганчаром і Анатолем Красоўскім, з аператарам ОРТ Зміцерам Завадскім. Мы перакананыя, што калі выканаем гэтую задачу, то шанцы Лукашэнкі як кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах будуць памяншацца», – лічыць лідэр АГП Анатоль Лябедзька.

Самая масавая акцыя плануецца на 18 траўня. У гэты дзень ад плошчы Незалежнасці да рэзідэнцыі прэзідэнта людзі паўстануць у жывы ланцуг з партрэтамі зніклых і тых, хто загінуў. Плануецца, што збярэцца да 2 тысяч чалавек.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# «Пяцёрка» заяўляе прыярытэты

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

**Сяргей КАЛЯКІН:** Для гэтага не трэба мяняць Канстытуцыю. Калі мяне, дапусцім, выбіраюць прэзідэнтам, я проста бяру на сябе мараторый не выконваць тых функцыяў, якія «лішнія» ў Канстытуцыі 1996 года, не прымаць дэкрэтаў, указаў, якія супярэчаць Канстытуцыі ці падмяняюць яе. Працаваць трэба ў прававым полі, якое створанае. Бяда не ў тым, што няма асноваў, сённяшняя бяда ў тым, што яны парушаюцца – ад самага верху ўлады да самага нізу. Трэба аднавіць законнасць у дзяржаве і кіраваць пры дапамозе закона.

***— Якім вы бачыце супрацоўніцтва з еўрапейскімі структурамі?***

**Міхаіл ЧЫГІР:** З міжнароднай ізаляцыяй будзе пакончана ў найкарацейшыя тэрміны. Для гэтага спатрэбіцца не больш за 2 месяцы.

**Уладзімір ГАНЧАРЫК:** Мы будзем шукаць сяброў, а не ворагаў.

**Сяргей КАЛЯКІН:** Беларусь мусіць у поўнай меры выкарыстоўваць сваё геапалітычнае і геаграфічнае становішча, каб наладзіць выдатныя ўзаемаадносіны як з Усходам, так і з Захадам. У тым ліку з *NATO*, Еўрасаюзам. Іншае пытанне: наколькі гэтыя структуры гатовыя супрацоўнічаць з намі.

**Павел КАЗЛОЎСКІ:** Стаць добрым мосцікам паміж Усходам і Захадам – нашае становішча дазваляе гэта.

***— Ці ўлічваеце вы ўплыў «расійскага фактара» падчас прэзідэнцкіх выбараў?***

**Павел КАЗЛОЎСКІ:** Безумоўна, «расійскі фактар» прысутнічае, яго нельга адмаўляць. Мы бачым сёння, што Расія яўна не падтрымлівае Лукашэнку. Гэта ўжо добры знак таго, што Лукашэнка дужа нервуецца з гэтай нагоды. Але я абсалютна згодны з тым, што, калі не будзе нашай сілы ўнутры Беларусі, то і «расійскі фактар» не дапаможа.

**Сямён ДОМАШ:** Асноўныя палітычныя сілы Расіі прыглядваюцца да сітуацыі на Беларусі. Зразумела, каго будзе падтрымліваць беларускае грамадства, ад гэтага будуць залежаць і адносіны Расіі.

***— Наколькі гатовы кожны з вас адмовіцца ад асабістых амбіцыяў і ўсё ж такі вызначыць адзінага кандыдата ў прэзідэнты?***

**Міхаіл ЧЫГІР:** Я думаю, у нас хопіць здаровага сэнсу, каб прыняць адзіна правільнае рашэнне пасля рэгістрацыі. Працэс рэгістрацыі – гэта спецыяльная сіта, арганізаванае ўладай. Улада гэты прыём выкарыстоўвала падчас парламенцкіх выбараў, і мы думаем, што ён будзе эфектыўна дзейнічаць і ў часе прэзідэнцкіх выбараў. Пасля рэгістрацыі – я ўпэўнены ва ўсіх сваіх калегах, што мы сядзем за «круглы стол» і пра ўсё дамовімся. Мы нават не выключаем, што можа скласціся такая сітуацыя, калі мы будзем працаваць на некага пастаронняга.

***— Па колькасці зняволеных Беларусь знаходзіцца наперадзе ўсяго цывілізаванага свету. Як вы ставіцеся да гэтае праблемы?***

**Міхаіл ЧЫГІР:** У мяне нядаўна была размова з дужа вялікім чынам з МУС. Я яму сказаў, што калі б сёння з турмаў выпусціць кожнага другога, то грамадства ад гэтага не пацерпіць, злачыннасць не вырасце. Гэты міліцэйскі чын, які адслужыў без малога 30 гадоў, сказаў, што без шкоды для грамадства з турмаў можна выпусціць дзве траціны зняволеных. І тады ў месцах зняволення застануцца сапраўдныя злачынцы. За кратамі знаходзяцца звыш 100 тысячаў чалавек – для нашай невялікай краіны, пры нашым менталітэце – гэта ўжо злачынства ўлады.

11 траўня «пяцёрка» патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты ад апазіцыі ў поўным складзе накіруецца ў Маскву, каб прыняць удзел у «круглым стале» з расійскімі СМІ. П.Казлоўскі, У.Ганчарык, М.Чыгір, С.Калякін ды С.Домаш запрошаныя ў расійскую сталіцу Фондам абароны галоснасці.

**Падрыхтаваў Рыгор БУЯН**

# Грамада ставіць на шырокую кааліцыю

## *27 траўня адбудзецца V пазачарговы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада)*

*Падрыхтоўка да прэзідэнцкіх выбараў 2001 года стане асноўным пытаннем гэтага з'езда. Пра гэта НАШАЙ СВАБОДЗЕ паведаміў лідэр Народнай Грамады Мікалай Статкевіч.*


Фота IREX/ProMedia

З'езд мусіць выпрацаваць стратэгію партыі на прэзідэнцкія выбары. Адпаведны праект пастановы Выканаўчае бюро партыі выпрацавала яшчэ 4 красавіка. Паводле гэтага дакумента, Народная Грамада плануе падтрымаць у часе прэзідэнцкай гонкі адзінага кандыдата «ад шырокай кааліцыі прагрэсіўных сілаў». М.Статкевіч заявіў, што, «па сутнасці, шырокая грамадская кааліцыя ўжо ўтварылася». Маецца на ўвазе зварот да грамадскасці пяці патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты, падпісаны імі ў Мінску 25 красавіка. Фактычна гэты дакумент ёсць адзіная платформа для «пяцёркі» на перыяд да афіцыйнай рэгістрацыі кандыдатаў.

М.Статкевіч сцвярджае, што «адзіны кандыдат мусіць вызначацца як мага пазней; у адваротным выпадку яго можна пасадзіць, ён можа знікнуць альбо яго проста не зарэгіструюць», — упэўнены лідэр Грамады. Больш за тое, Народная Грамада гатовая падтрымаць таго кандыдата, які выканае дзве ўмовы: падтрымае платформу, якая задавальняе партыю, ды падпіша пагадненне пра парадак вылучэння адзінага кандыдата. Што да платформы, то сацыял-дэмакратам бліжэй за ўсё платформа, распрацаваная Нацыянальным выканаўчым камітэтам на чале з Мечыславам Грыбам. За тых патэнцыйных кандыдатаў, што прымуць умовы Народнай Грамады, партыя будзе збіраць подпісы: закон не забараняе збіраць подпісы адразу за некалькіх кандыдатаў.

Мікалай Статкевіч прыхільна ставіцца і да ідэі так званых «першасных выбараў»: правесці неафіцыйныя прэзідэнцкія выбары па рэспубліцы з мэтай вызначыць рэйтынг патэнцыйных кандыдатаў ад апазіцыі і паставіць на таго, які мае найбольшыя шанцы на перамогу. Але ролю «першасных выбараў», на думку Мікалая Статкевіча, мусіць адыграць збор подпісаў. Менавіта гэтая акцыя дасць магчымасць вызначыць найбольш рэальную фігуру ад апазіцыі быць адзіным кандыдатам. Менавіта за яго збірацца агітаваць Народная Грамада пасля рэгістрацыі.

Апрача таго, на з'ездзе, верагодна, паўстане праблема ўзаконьвання фракцыяў унутры партыі. Мінулы з'езд у ліпені 2000 года даручыў Цэнтральнаму камітэту распрацаваць адпаведнае палажэнне, аднак ЦК даручэнне не выканаў. Тым не менш, Цэнтральная рэвізійная камісія збіраецца вынесці пытанне на парадак дня. Таму Выканаўчае бюро аўральным парадкам распрацавала праект палажэння, які «ніякіх дыскрымінацыяў не ўносіць – ён проста рэгламентуе дзейнасць фракцыяў». «У нас было такое, калі 20 чалавек абвяўлялі сябе фракцыяй», — падкрэсліў Мікалай Статкевіч. Фактычна стварэнне ўнутрыпартыйнай фракцыі становіцца магчымы, калі яе падтрымлівае не менш за 20% сябраў партыі. Цяпер у Народнай Грамадзе дзейнічаюць чатыры фракцыі: «За адзінства» на чале з Аляксеем Каралём, маладзёжная, жаночая ды «Актыўнае дзеянне», якую ўзначальваюць Уладзімір Нісцюк ды Віталь Малашка. Магчыма, пасля прыняцця палажэння аб фракцыях унутрыпартыйных фракцыяў у Грамадзе паменее.

**Рычард САРДЭЧНЫ**

# Все было сделано профессионально...

## *Прошло более девяти месяцев после исчезновения Дмитрия Завадского, а у родных телеоператора ОРТ до сих пор нет никаких сведений о его судьбе...*

**Ольга Григорьевна ЗАВАДСКАЯ:** Всем нам сейчас очень трудно. Нас не информируют о ходе следствия. Точнее, информация к нам поступает очень противоречивая. Однажды вызвали меня и сказали: есть группа задержанных, которых обвиняют в убийстве Завадского. Буквально через несколько дней снова вызвали, но уже была изменена формулировка: их обвиняли не в «убийстве», а в «похищении». На все наши вопросы представители следственной группы отвечают: «Есть у нас одна зацепка. Мы надеемся, что «расколется» один из задержанных по этому делу». В каком смысле «расколется»?

И в то же время существует информация, что все задержанные по этому делу отрицают свою вину, говорят: «А кто этот Завадский в конце концов?»

К тому же упрямо распространяются слухи, что Завадского нет в живых. Например, Генадя Барбарича, корреспондента БелаПАН, когда вызвали в прокуратуру, старались убедить, что Завадского уже нет. Все время подбрасывалась ему эта идея, наверное, для того, чтобы он вышел и на эмоциональной волне написал...

**Светлана ЗАВАДСКАЯ:** Я спрашивала у следователей – какие у вас есть доказательства, что Завадского нет в живых? Оказывается, нет доказательств.

**Ольга Григорьевна ЗАВАДСКАЯ:** В конце прошлого года в газете «Народная воля» появилась заметка, что скоро всех белорусов и родных Завадского ждет сенсация – отдадут тело Дмитрия семье. И будто бы тело будет найдено на территории Чечни. Вы можете себе представить, как мы себя чувствовали после этой статьи?

**Светлана ЗАВАДСКАЯ:** Наш сын знает, что его отец исчез. Он понимает это... Но верит, что все будет хорошо. Во время «Гродненского дела» он очень нервничал, плакал, переживал. А сейчас сын верит в лучшее.

**Ольга Григорьевна ЗАВАДСКАЯ:** Когда накануне вечером звонил Шеремет и спрашивал, может ли Дима забрать его из аэропорта, Дима себя плохо чувствовал, но согласился.

**Светлана ЗАВАДСКАЯ:** Было так... Дима сказал: «Хорошо, я тебя встречу!» Положил трубку и спросил: «А кто это звонил?» Перезвонил Шеремету, переспросил: «Павел, это ты звонил?» Дима был совсем болен, но утром позавтракал и поехал... Странно все это... Дима рассчитал так, чтобы приехать к самому прилету самолета. Проводили следственный эксперимент, рассчитывали все по минутам. Получалось: если бы его задержали в дороге хотя бы на 3-5 минут, то Шеремет уже прилетел бы, а Дима еще не подъехал... Поэтому следователи сделали вывод, что все произошло в аэропорту. И буквально за несколько минут.

**Ольга Григорьевна ЗАВАДСКАЯ:** Тот профессионализм, с которым все было сделано, не оставляет сомнения, что делали не дилетанты. Все происходило, можно сказать, на глазах милиции... В буквальном смысле: Дима вышел из одной машины, и его сразу же пересадили в другую... Значит, его нужно было убедить в считанные минуты, что ему нужно пересесть в эту машину, чтобы он не возражал. Затащить Диму в машину при его росте 190 см было очень трудно. Он очень высокий, всегда обращал на себя внимание. Даже на митингах, где всегда много операторов снимало, милиционеры цеплялись почему-то именно к Диме, хотя он просто выполнял свои профессиональные обязанности.


Жена Дмитрия Завадского — Светлана и мать Ольга Григорьевна

**Светлана ЗАВАДСКАЯ:** Факт то, что когда ко мне первый раз приехали следователи, я стала спрашивать: «Были ли свидетели?» Они ответили: «Да, были. Носильщик кое-что видел и таксист». Носильщик тот опознал Диму по приметам, сказал: «Я видел, вышел такой из машины. К нему подошли люди, что-то сказали... Было впечатление, что милиция забирает». Потом я снова спрашивала о свидетелях, мне ответили: «Нет, что вы! Какие свидетели!»

Друзья Димы пытались искать этих свидетелей. Но ничего не получилось. Все было сделано профессионально, поэтому никаких концов нет... Там, где Дима остановил машину, нет стоянки. Он мне сам говорил: «Только остановись, там сразу всех штрафуют!» Милиционеры смотрят: какая машина, кто вышел, кто сел, потом штрафуют. А тут получилось, что машина подъехала, а милиционеры не заметили, кто из нее вышел?

**Ольга Григорьевна ЗАВАДСКАЯ:** Ну, как так можно было сработать, чтобы никто ничего не заметил? Когда мы ехали в аэропорт, там на 150 метрах буквально три пикета милиции... Это чисто спланированная акция – именно в том месте и в то время.

**Светлана ЗАВАДСКАЯ:** Хотя почему они сделали это именно в аэропорту? Значительно легче это можно было бы сделать, когда Дима на рыбалке – это было его увлечением. А на рыбалке многое может случиться – можно утонуть, и никто вопросов задавать не будет.

**Ольга Григорьевна ЗАВАДСКАЯ:** Я все больше склоняюсь к мысли, что это спецслужбы сработали. Я не могу сказать, знал об этом Лукашенко или нет... Но кому-то это исчезновение было выгодно. И все очень продумано... Действительно, кому нужен Дима? Он что, политик? Кто он? Разве он выходил с оппозиционерами в пикеты? Он был абсолютно нейтральным. Он работал, только работал. Он хорошо знал свою задачу. Он работал молча. Он мог целые сутки отработать и слова не вымолвить. Так говорят все сотрудники, с которыми он в последнее время имел дело. Миллион раз передумываю все и ничего не понимаю...

Был такой случай: мои две племянницы, муж одной из них и их ребенок обедали в кафе. Они сидели, ожидали заказ и вдруг услышали за спиной разговор, в котором упоминались фамилии Шеремета и Завадского. Моя племянница отчетливо услышала некоторые фразы: «Что мы, три силовые структуры, не договоримся?» и «Так что, нам теперь из-за этого и Захаренко с Завадским выпустить?» Они были на машине, нам известен ее номер. Я уже рассказывала об этом случае в интервью «Народной воле». Мы думали, что на нас начнут давить, допрашивать. Ничего. Никакой реакции. Хотя если следственная группа не знала об этом факте, то они должны были поинтересоваться, как все происходило. Тогда эти люди сами поняли, что их слушают, поэтому сгруппировались. Стали рассматривать, изучать. А Наташа, моя племянница, очень похожа на меня. Потом стали на выходе расспрашивать у ребенка: кто его мама, кто его папа? Вот такой контакт имел место.

**Светлана ЗАВАДСКАЯ:** Есть разные версии... Но чтобы при таком количестве милиции вот так днем бесследно исчезали люди!

**По материалам ПЦ «Вясна» Полина СТЕПАНЕНКО**

# «Зарплату — на ўзровень цэн!»

*Паводле звестак Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, да сярэдзіны красавіка пад рэзалюцыяй мітынгу «Зарплату — на ўзровень цэн!» надпісаліся каля 200 тысяч чалавек*

Арганізаваны прафсаюзамі мітынг адбыўся 14 лютага ў Мінску. Яго ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю, у якой запатрабавалі прывесці заробтную плату ў адпаведнасць з узроўнем цэн, павысіць тарыфную стаўку 1-га разраду да памеру бюджэту пражытачнага мінімуму, давесці зарплату работнікаў бюджэтнай сферы да 100 працэнтаў ад узроўню зарплаты ў прамысловасці, падпісаць Генеральнае пагадненне на 2001-2003 гады з улікам прапаноў ФПБ, спыніць абмежаванне правоў прафсаюзаў і ўмяшальніцтва ў іх статутную дзейнасць, а таксама «спыніць патокі хлусні і паклёпу на прафсаюзы ў дзяржаўных СМІ». 22 лютага прэзідыум Савета ФПБ прыняў рашэнне пачаць збор подпісаў пад рэзалюцыяй.

Паводле інфармацыі ФПБ, больш за ўсё подпісаў сабрана ў прафсаюзах работнікаў адукацыі і навукі — 167 тысяч, хімічнай, горнай і нафтавай галін прамысловасці — 10 тысяч, будаўніцтва і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў — 2,6 тысячы, абароннай прамысловасці — 2,4 тысячы. Найбольшую актыўнасць праявілі прафсаюзныя арганізацыі ВА «Беларуськалій» (8.000 подпісаў), Барысаўскага крыштальнага завода імя Дзяржынскага (1.917), навапалоцкага завода «Вымяральнік» (1.179), Мінскага падшыпнікавага завода (840).

Разам з тым ФПБ адзначае недастатковую работу шэрагу прафсаюзных арганізацый па выкананню рашэння аб зборы подпісаў. Некаторыя прафкамы не мелі падпісных лістоў або нагул не ведалі аб гэтым рашэнні. Мінскі абкам прафсаюза работнікаў культуры і прафкам гродзенскага ВА «Азот», насуперак статутам ФПБ і галіновых прафсаюзаў, наогул праігнаравалі пастанову прэзідыума. У прыватнасці, прафкам ВА «Азот» прыняў рашэнне «лічыць немэтазгодным у дадзены момант арганізоўваць збор подпісаў членаў прафсаюза ў падтрымку выкладзеных у рэзалюцыі патрабаванняў».

ФПБ мае намер прадоўжыць растлумачальную працу сярод членаў прафсаюза аб неабходнасці сумесных дзеянняў па абароне сваіх правоў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН**



Фота IREX/ProMedia

ЭКСПРЭС

# Прогнозы, долги, расчеты

## БЕЛАРУСЬ

### 45% убыточных предприятий торговой отрасли

Количество убыточных предприятий торговли и общественного питания в первом квартале нынешнего года достигло в республике 45 процентов. Как сообщили в минторге, неблагополучно обстоят дела в оптовой торговле, где уровень рентабельности снизился с 0,13 процента в прошлом году до 0,08 — в нынешнем.

### 10 тысяч тонн безвозмездного топлива

Предприятия государственного концерна «Белнефтехим» для оказания помощи хозяйствам республики в проведении посевной выделили безвозмездно 5 тысяч тонн дизельного топлива. Столько же пожертвовали на нужды села и коммерческие нефтяные компании. Об этом сообщил заместитель начальника управления нефтепродуктов концерна «Белнефтехим» Валерий Кабанович. При этом он подчеркнул, что выделенное горючее направляется в адрес облисполкомов, а распределяться оно будет в регионах.

### Размер уставных фондов белорусских банков снижается

Размер уставных фондов белорусских банков вырос за первый квартал на 5,9 процента до 222 миллиардов рублей, однако, в реальном выражении он сократился на 6,4 процента. Об этом на пресс-конференции в Минске заявил председатель правления Национального банка Беларуси Петр Прокопович. В целом по итогам квартала собственный капитал банков в рублях вырос на 33,6 процента или на 18,1 процента в реальном выражении: с 387,5 миллиарда рублей на начало года до 517,7 миллиарда рублей на 1 апреля.

### Инвестиции в торговую отрасль

Объем инвестиций в торговую отрасль республики в первом квартале нынешнего года составил 5,5 миллиарда рублей. Как сообщает министерство торговли, почти 38 процентов этой суммы затрачено на техническое перевооружение и приобретение нового холодильного и торгового оборудования.

### Объем инвестиций в белорусскую энергетику

Объем инвестиций в белорусскую энергетику к 2015 году должен составить свыше 5 миллиардов долларов США. Как сообщил президент концерна «Белэнерго» Евгений Мишук, основным направлением инвестиционной политики энергетического комплекса на ближайшую перспективу является замена изношенного оборудования. Она будет производиться за счет реконструкции и модернизации действующих объектов. Среди объектов, которые будут реконструированы, — Березовская ГРЭС, Минская ТЭЦ-3, Гомельская ТЭЦ-2 и большинство других ТЭЦ.

## ЗАРУБЕЖЬЕ

### Европейская комиссия указывает на экономический риск расширения ЕС на Восток

Европейская комиссия указывает на серьезный экономический и финансовый риск предстоящего расширения ЕС на Восток. Это суждение прозвучало в служебном докладе, подготовленном Еврокомиссией. В документе, в частности, подчеркивается, что наряду со значительным экономическим приростом, отмеченным в некоторых восточноевропейских странах, на востоке Европы сохраняются серьезные структурные недостатки в экономике и финансовой системе. Поэтому, как отмечается в докладе, присоединение стран Центральной и Восточной Европы к валютному союзу ЕС станет возможным не ранее 2008 года.

### Убытки мировой индустрии звукозаписи

Объем продаж музыкальной аудиопродукции в мире сократился в прошлом году на 1 млрд. 600 млн. долларов. Ведущие эксперты сферы звукозаписи видят причиной падения покупательского спроса рост пиратства и увеличение популярности интернета. Особенно это явление отразилось на американском музыкальном рынке. Объем продаж в США сократился за 2000 год почти вдвое — на 46% — по сравнению с 1999 годом. К примеру, если в магазине компакт-диск стоит от 11-12 долларов, то уличные торговцы предлагают нелицензированные копии за 3-5 долларов. Между тем в Европе в этом году наблюдался незначительный — 1,4% — рост объема продаж по сравнению с 1999 годом. Совокупный же мировой доход от реализации аудиопродукции составил в 2000 году 36,9 млрд. долларов.




**Андрей КАРПОВИЧ**

# Беларусь і буржуіны

## *Думкі напярэдадні Народнага сходу ў Палацы Рэспублікі*

*Гістарычна склалася так, што сапраўдных буржуяў на Беларусі даўно павывелі, а засталіся нейкія нягеглыя сялянскія дзеці з фатальнай марай пра звышнатуральныя прыбыткі.*

Мара гэтая ўзмацняецца адначасова з валтузнёй, якая завецца рэстаўрацыяй капіталізму з чалавечым тварам для будаўнікоў рынкавага сацыялізму. Прадбачлівыя габрэі ў большасці з'ехалі падалей ад новабудоўлі, каб не засыпала друзам, калі канструкцыя, барані Божа, разбурыцца.

Ідэалагічнае змаганне вакол заможнасці беларускага народа тым часам дасягнула вышэйшых ступеняў напалу. Шырокая дэмакратычная кааліцыя хорам сцвярджае, што стан дабрабыту няўхільна пагаршаецца і скора апынецца ў сферы адмоўных велічыняў.

Гэтыя апантаныя жаданнем дарвацца да ўлады суб'екты не хочуць заўважаць мінстатаўскіх аргументаў аўтарытэтных у пэўных колах мужчынаў, каторыя да ўлады даўнавата ўжо дарваліся. Паводле апошніх, дабрабыт зашкальвае: сукупная валавая скварка, парэзаная на дробныя кавалкі, зрабілася даўжэйшая за экватар, а ў адпаведнай чарцы можна патапіць «Тытанік» і палову Шостага імперыялістычнага флоту.

Адсюль, з кранмантанскага далёка, можна з'ехаць з глузду, гледзячы, братаны, на вашу бездапаможную палеміку. А ўся бяда з вамі праз тое, што павыганялі з Краю сапраўдных знаўцаў нацыянальнай ментальнасці і боўтаецеся зараз паміж Марксам і Самуэльсанам. А вось паспрабуйце, як мы, зірнуць у бяздонныя вочы народнай праўды.

Вы ўбачыце галоўнае. Нацыя выбірае шлях у постіндустрыяльнае грамадства і гатовая аплачваць яго, адмаўляючыся нават ад задавальнення базавых інстынктаў. Па грунтоўных доказы далёка хадзіць не трэба.

Пару месяцаў таму ў нашую універсітэцкую бібліятэку патрапіла нацыянальная справаздача аб развіцці чалавека за 2000 год, якая завецца «Беларусь: выбар шляху». Адрасатамі гэтай грунтоўнай распрацоўкі ёсць горад і свет, аўтарамі – багатыры айчыннай макраэканомікі, без разбору палітычнай арыентацыі. Адначасова пабачыла свет і справаздача мінстата «Рэспубліка Беларусь у лічбах». То бок, крыніцы надзейныя.

Дык вось, высвятляецца, што за апошнія дзесяць гадоў сярэдні беларус стаў менеі спажываць за год хлеба – на 11 кг, мяса – на 14 кг, малака і малочных прадуктаў – на 95 кг. Спажываць менш за 170 кг бульбы не можа, бо падобна, што гэта норма закладзеная ў генетычным кодзе. Таму бульбы менеі есці не сталі.

І пакуль ачмураныя ад тлушчу жыхары краінаў гэтак званага «залатога мільярда» трушчаць розныя лекамі і траўкамі, балотныя людзі пераўтвараюцца ў нацыю інтэлектуалаў. Колькасць моладзі ва ўзросце ад шасці да 23 гадоў, што павышае сваю адукацыю, узрасла на 5 працэнтных пунктаў, а ў ВНУ наогул стала паступаць на 13% болей юнакоў і дзяўчат ва ўзросце 17-18 гадоў.

Іншы аспект. Параўнайце любую амерыканскую газету з любой нашай. Іхная таўсцейшая. А толку. Нашу народную масу таўшчынёй не спакусіць. Нам і тонкія без патрэбы. Калі ў 1990 годзе на 100 беларускіх душ прыпадала 29 паасобнікаў друкаваных органаў, то зараз амаль у тры разы менеі – 11. Тым самым быў забяспечаны росквіт галіны па вытворчасці туалетнай паперы, і колькасць жывых суб'ектаў на аднаго лекара скарацілася з 247 да 218 чалавек. Мабыць, лекараў пабольшала, ці што?

Канцэнтрацыя патэнцыялу нацыі на ўзмацненні ўласнае адукацыі пацягнула за сабой нечуваныя поспехі на экалагічным фронце. Выкіды серы і азоту на галаву аднаго няшчаснага беларуса скараціліся за дзесяць гадоў з 65 да 17 кг. Народ адчуў палёгку, падняў галаву і праз чыстае паветра бачыць свае далягляды.




Не сакрэт, што не ўсе былі задаволены імклівым скарачэннем спажывання малака і выкідаў у атмасферу. Яны сталі сваволіць і былі ізаляваныя. Колькасць зняволеных за апошнія дзесяць гадоў узрасла са 156 сядзельцаў на 100.000 расканваіраваных грамадзянаў да 468. Не хвалюйцеся, іх ёсць каму сцерагчы і карміць!

Пасіянарная энергія тых, што засталіся па гэты бок дроту, працягвала расці. Выбары і рэферэндумы змянялі адно аднае з усё большым поспехам. Колькасць забойстваў, учыненых мужчынамі, за тыя ж дзесяць гадоў павялічылася ўдвая, колькасць пазашлюбных дзяцей – удвая, колькасць разводаў – удвая (мы нават не ўдаемся ў дэталі). Так, ёсць і хібы, што не дазваляюць назваць увесь працэс элеганцкім. Колькасць мужчынаў-самагубцаў таксама павялічылася амаль удвая – з 34 на 100.000 у 1990 г. да 61 – у 1999. Іх шкада.

Але падобна, што той прарыў у будучыню, каторы падспудна рыхтаваўся паваеннымі капіталаўкладаннямі бальшавікоў у Беларусь, наспеў. Колькасць аўтамабіляў на 100 чалавек павялічылася з 5,7 на 100 чалавек у 1990 годзе да амаль 14 сёння.

Падумайце, кожная трэцяя сям'я на машыне. Во дзе тое малако і хлеб. Вось адкуль столькі бульбы. Гэтая армада дыпламаваных аўтаўладальнікаў ужо пасяляе жах у сэрцах натаўскіх штабных пацукоў. Яны даперлі, што са ста доларамі ў кішэні матарызаваныя гуны 21 стагоддзя могуць за колькі дзён даперці да Ла-Манша.

Вакол нас уводзіцца візавы рэжым. А нам смешна. Бо сіла мары, сіла любові і сіла беларускага духу здольныя знесці ўсе сатанінскія вычварэнні будаўнікоў жалезных заслонаў на Усходзе і Захадзе. Наш сукупны індэкс развіцця чалавечага патэнцыялу ўзрос з 0,763 у 1996 годзе да 0,782 – у 1999.

Ад селектарнай нарады да народнага сходу, ад сходу да выбараў жывe Беларусь.

**Д-р Ганорыс КАУЗА**

 



# «Усе беларусы перад Богам адкажуць...»

## Інтэрв'ю старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзіміра Някляева

***— Уладзімір Пракопавіч, на канец траўня запланаваны з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў. Вы будзеце браць у ім удзел?***

— Я пакуль што старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, таму абавязаны быць на з'ездзе. І, канечне, буду.

***— Што чакаецца на ім?***

— Усялякае... З'езд будзе не просты. Апроч арганізацыйнага пытання, якое сталася фармальнай прычынай для склікання з'езда, ёсць і іншыя, у тым ліку значна болей важныя. Найпершае з іх, на якое, як мне ўяўляецца, з'езд павінен адказаць, гэта ***што такое*** сёння Саюз беларускіх пісьменнікаў і ***дзеля чаго*** сёння Саюз беларускіх пісьменнікаў?.. Створаны быў ён некалі па сутнасці для абслугоўвання тагачаснай савецкай улады, для яе ідэалагічнага забеспячэння — і цяперашняя беларуская ўлада, ідэалагічна застаўшыся савецкай, стаўшы нават больш савецкай за савецкую, менавіта такі Саюз пісьменнікаў і хацела б, што называецца, мець. Але што сёння абслугоўваць беларускім літаратарам, калі іх будуць мець?.. Вынішчэнне мовы, на якой яны пішуць? Культуры, у якой яны сфармаваліся? Нацыянальнай гістарычнай памяці, без якой немагчымае існаванне нацыянальнай літаратуры?.. Гэта, калі мякка сказаць запазычаным словам, нонсэнс, толькі гэта якраз і прапануецца ўладай пісьменнікам у гульні пад назвай «мы вам — вы нам». Аляксандр Лукашэнка, ці яшчэ там нехта, можа хоць сто разоў казаць, што яно не так, але яно так. Бо, апроч словаў пра палітыку, ёсць сама палітыка, рэальныя працэсы, якія адбываюцца сёння ў Беларусі — і ніводны з іх (ва ўсялякім разе ніводны ў сферы культуры) не скіраваны да свайго, да беларускага, усе ў адваротны бок...

Для літаратараў пераборлівых і занадта датклівых, з годнасцю і ўсялякім такім, ёсць прапанова з мякчэйшым, так бы мовіць, нонсэнсам: калі ўжо ўдзельнічаць у гэтым нешта вам не дазваляе — тады не ўдзельнічайце ні ў чым. Ну, нашто вам, маўляў, гэтак тонка змайстраваным, такая грубая рэч, як палітыка. Вы ж пісьменнікі, у вас з вечным размовы, пішыце сабе... Добра, толькі хто і на якой мове чытаць будзе? Вечнасць на вечнай?.. Наўрад ці... Вечнасці да тых, хто сам сябе прафукаў, справа камарыная.

За самастрату Беларусі, — што ўжо зусім не немагчыма, як яшчэ некаму здаецца, — усе беларусы перад Богам адкажуць, але ў пісьменніка — адказнасць асаблівая. Бо, калі мільёны могуць і не разумець, што страчваюць, ён адзін — разумее. А пісьменнік з гэтым штодня адзін, штодня сам-насам. З разумення гэтага і павінны ўзнікнуць рашэнні, якія, як мне думаецца, стануць зместам з'езда.

Той, хто ўсё яшчэ не верыць, што беларусы могуць страціць Беларусь, няхай падлічыць, колькі ўжо страчана беларускага за апошнія гады, і з падлікамі гэтымі прыкіне, колькі часу засталося на тое, каб страціць астатняе... Я дык думаю, што з такімі стратнымі тэмпамі, як зараз, яшчэ аднаго прэзідэнцкага тэрміну Лукашэнкі на астатняе якраз і хопіць.



Фота Ул. ШЛАПАКА

***— Якой вам бачыцца агульная палітычная сітуацыя ў Беларусі ў звязку з маючымі адбыцца прэзідэнцкімі выбарамі?***

— Рэдкімі наездамі, як гэта зараз у мяне здараецца, цяжкавата аб'ектыўна яе ацаніць, для гэтага неадлучна трэба ў ёй быць, штурхацца ў ёй плячыма... Тым не менш, два моманты, бадай, відавочныя.

Першы — паводзіны ўлады. Яна так татальна і ў той час нервова дэманструе сілу і рашучасць, перакананасць у поўнай і непазбежнай перамозе, як знешне дэманструецца гэта толькі тады, калі ўнутры — страх і няўпэўненасць. Гэтак у прафесійным боксе той з баксёраў, які болей баіцца, болей перад боем і застрашвае суперніка, грае мускуламі і корчыць морды. А тут яму бац па мордзе — і адпачывай...

Другі — паводзіны апазіцыі, якая не мае бясспрэчнага лідэра, таму гуляе ў такія хітрыкі, што як бы не перахітрыла саму сябе. Адзіны ад апазіцыі кандыдат у прэзідэнты даўно павінен быў бы назвацца, бо чым бліжэй да выбараў, тым зрабіць гэта складаней. Першыя не чакаюць у чарзе, дзе раўняюцца з астатнімі — і каб кандыдат гэты стаў сапраўды адзіным, яго, адкінуўшы ўсялякія хітрыкі, праз *не магу* па ім дамовіўшыся, трэба было назваць першым з усіх. Зараз жа малападобна на тое, што ён будзе адзіны нават у тым выпадку, калі каардынацыйная рада, ці яшчэ нехта, такім яго назаве. Расце колькасць саманазваных кандыдатаў, у палітычную гульню ўключаюцца падстаўныя фігуры, распаляюцца амбіцыі і, хоць яшчэ робіцца выгляд, быццам нехта некага слухае, ствараецца нават *адзіны блок* кандыдатаў, рэальна відаць, што скура незабітага мядзведзя — хадавы сярод беларусаў тавар. Нацыянальны. Сумна ў тым у каторы раз пераконвацца, няёмка заклікаць некага да разумення таго, што значаць для Беларусі гэтыя выбары, — усе ж усё разумеюць...

***— Па-вашаму, выходзіць, выбары ў такой сітуацыі выйграе Аляксандр Лукашэнка?***

— Не, Лукашэнка прайграе выбары. Для таго, каб выйграць, яму трэба набраць найменей столькі ж галасоў, колькі сем год таму, чаго не можа быць.

Ён прайграе нават у тым выпадку, калі яму дазволяць сфальсіфікаваць выбары і пакінуць яго яшчэ пакіраваць. Тыя галасы, тая сіла, што будзе супраць Лукашэнкі, стане трывалай апорай апазіцыі, яна ўрэшце і даціскне яго. Тут няма ў мяне ніякага сумневу.

Роля Аляксандра Лукашэнкі ў сучаснай беларускай гісторыі не цалкам адмоўная. Але і ў дадатнай сваёй частцы яна выкананая і перавыкананая ім. Сёння ён ва ўсім замінае Беларусі, з ім Беларусь не мае будучыні, яму трэба сыходзіць. Толькі, канечне, чакаць, што ён сам зразумее гэта, не даводзіцца.

***— Вы ўжо даволі доўга жывеце ў замежжы. Як адтуль глядзяць на нас палітыкі, людзі бізнесу, культуры і, што называецца, просты люд?***

— Ну, як яны глядзяць... Так, бадай, як мы таго заслугоўваем: як глядзяць на тых, хто збіўся ў статак пад бізуном... Пагляд ва ўсіх прыблізна аднолькавы — і найгорш глядзіць той самы просты люд. Дакладней, выказваецца ён найгорш, бо яму не да галавы ўмоўнасці, як людзям палітыкі альбо культуры. Толькі зачапіся, дык такога наслухаешся... Вобраз Лукашэнкі — устойлівы вобраз самадура і дыктатара, і ён ужо не зменіцца. Адна радасць, што праз яго цяпер Беларусь ва ўсім свеце ведаюць. Але ж такой і ўяўляюць...

Каб толькі ўяўлялі, дык паўбяды б... З уяўленняў вынікаюць дзеянні. Блакада Беларусі афіцыйна не аб'яўлялася, але непажаданасць узаемадачыненняў з лукашэнкаўскай Беларуссю існуе, неабвешчаная блакада дзейнічае.

Прыкладаў яе колькі заўгодна, вось нядаўні. У Хельсінкі напрыканцы красавіка ладзілася беларуская прамысловая выстава. Адзіная, першая за ўсю гісторыю такая беларуская выстава ў Фінляндыі — хіба гэта, як кажуць журналісты, не інфармацыйная нагода?.. А па запрашэннях на прэс-канферэнцыю з гэтай нагоды не з'явіўся ніводны фінскі журналіст. Ніводны, разумееце?.. Выставу замаўчалі, практычна не заўважылі. Што гэта, калі не дэманстрацыя неабвешчанай блакады, і колькі Беларусь на гэтым страчвае?..

Палітычны вобраз краіны ўздзейнічае на эканоміку — і яшчэ як. Неабвешчаная блакада можа стаць абвешчанай — з уключэннем усіх яе жорсткіх механізмаў. Пры захаванні ў Беларусі цяперашняй палітычнай сітуацыі непазбежна гэтак і станецца. Таму той, хто дапускае, што ўсё можа заставацца так, як ёсць, нават не ўяўляе, які варыянт развіцця падзеяў ім дапускаецца. Тут мала не здасца і простаму люду, і няпростаму...

***— Можа, лішняе пытанне, але як вам зараз жывецца?***

— Чаму лішняе?.. Я так думаю, што сярод жывых людзей гэта ці не адзінае пытанне, якое нечага вартае. Хоць бы таму, што ў нябожчыка не спытаеш: як жывеш?..

Па-рознаму... Але калі сфармуляваць, дык прыблізна так: «*У сваім народзе ты жывеш — у чужым народзе пражываеш*». Нешта такое... І нічога з гэтым не зробіш.

А ў побыце няма на што скардзіцца. Ёсць дах над галавой, ёсць магчымасць працаваць хоць удзень, хоць уночы — ніхто і нішто не замінае. Ні сябры, ні ворагі, ні нават гарэлка. Пляшка тут 20 доляраў каштуе, дык і адвык. Дахаты, мусіць, трэба збірацца...

***— У адным з інтэрв'ю вы сказалі, што пішаце прозу. Ці можна канкрэтызаваць, якую?***

— Не ведаю нават, як канкрэтызаваць... У Менску, калі я на Курасоўшчыне жыў, у мяне сусед быў, лётчык у запас спісаны. У яго як ні спытаеш: «Што цяпер робіш?» — адказвае: «Раман пішу». Пляшку яму праставіш — расказвае, які... Кожны раз выходзіў новы.

Каб гэтак не канкрэтызаваць, прапаную адно апавяданне, год ужо як напісанае. Яно перакладзенае на фінскую мову, але па-беларуску не друкавалася.

**Інтэрв'ю брала**
**Вераніка ЧАРКАСАВА**

***P.S.*** *Апавяданне Уладзіміра Някляева «Кот Клаўдзіі Львовны» будзе надрукаванае ў наступным нумары.*

Гэта толькі падаецца, што з'ехаў пісьменнік з Беларусі – і аб ім забыліся. Усё наадварот, Васіль Быкаў як толькі паехаў за мяжу – дык дня не праходзіць, каб яго на тэлебачанні ці ў якой афіцыйнай газеце агрэсіўна ні прыгадалі. Памятуюць і іншых, напрыклад, Уладзіміра Някляева. Мінулым тыднем у «Народнай газеце» Алесь Савіцкі, які называе сябе «старым народным мсціўцам» і ўзгадвае, што ён – былы камандзір падрыўной групы, разрадзіўся вялізным памфлетам «Колькі каштуе варшаўскі фаршмак?» Спадар Савіцкі абурыўся тым, што Уладзімір Някляеў у нейкім інтэрв'ю абразіў «яго Прэзідэнта», і грудзьмі стаў на прэзідэнцкую абарону. Але чамусьці не абразіла пісьменніка Савіцкага, калі «яго Прэзідэнт» ганьбіў франтавіка Васіля Быкава, іншых славутых дзеячаў беларускай культуры? Яго словы ў іхны адрас і ёсць тое, што Алесь Аляксандравіч называе «вяршыняй пошласці і кірмашовым фіглярствам».

Зразумела, што з набліжэннем пісьменніцкага з'езда ўзмацняецца ідэалагічная агрэсіўнасць прапрэзідэнцкай суполкі майстроў пяра. У час выбараў для А.Лукашэнкі важна пачуць ад іх пра сябе хоць адно публічнае добрае слова. Вось сп. Алесь Савіцкі і сказаў, узяўшы за аб'ект падрыву старшыню Саюза.

Як ставіцца да праблемаў жыцця і літаратуры сам Уладзімір Някляеў, апавядае яго інтэрв'ю.

РЭПЛІКА

# Славіна замест Сталіны

*Што ні кажы, але мемуары беларускіх пісьменнікаў чытаць вельмі цікава. Асабліва змястоўныя тэксты сустракаеш у той частцы, дзе яны ўспамінаюць пра творчыя сустрэчы з калегамі па творчым цэху з іншых «брацкіх рэспублік».*

І трэба адзначыць, што многія з іх паднабраліся-такі майстэрства ў тым, што тычыцца апісання рэстаранных меню і нацыянальных асаблівасцяў у паяданні розных прысмакаў. Чытаеш, слінкі самі сабой цякуць. А пазнаеш гэтыя «смачныя» месцы адразу, як толькі позірк спатыкаецца на словах: «А потым пайшлі ў Арагві...»

Канешне, адным гастранамічным матывам нельга патлумачыць тую настальгію па савецкім часе, якая апанавала многіх з тых, каго абставіны высунулі на службу ў якасці «інжынераў чалавечых душ». Але, як кажуць, але... За сталом, калі ўжо цябе пасадзілі, усе роўныя, а госці нават раўнейшыя за ўсіх. Таму, калі арганізм малады і здаровы, можна папіць-паесці з вялікай асалодай. І мець добры настрой. Мо таму ў сваіх успамінах «Такое сіняе неба», надрукаваных у снежаньскім нумары «Маладосці», Янка Сіпакоў піша літаральна наступнае: «У Савецкім Саюзе чалавецтва было блізкае да гэтай сваёй спрадвечнай мары — у нас і напраўду не было супербедных і супербагатых, не было рабаўладальнікаў і рабоў. Але зладзеі і чалавеканенавіснікі, вядома ж, былі. Яны якраз і спалохаліся: калі ўсё гэтак пойдзе і далей, дзе ж апынемся мы — нам жа не дадуць беспакарана красці і здзекавацца над іншымі. Яны і разбурылі шматнацыянальную дзяржаву, у якой так блізка было да ўсеагульнай роўнасці».

Перабудова для Янкі Сіпакова — «будаўніцтва нуля, пустаты, нічога». І ўся гэтая лухта пра краіну, у якой толькі вар'яты мелі магчымасць нікому не падпарадкоўвацца, дзе амаль кожны быў «начальнікам» і адначасова падначаленым. Прыкладам, нават вельмі вялікія шышкі дзе-небудзь у інстытуце ці іншай установе, у побытавай сферы былі цалкам падначаленыя сантэхнікам, прыёмшчыцам, гандляркам, вахцёрам, не кажучы ўжо пра міліцыянтаў. А сэрвіс у нас, вядома ж, быў не толькі «ненавязчывым» але і проста хамскім. Карацей, там дзе трэба было ўзяць нешта законнае, чалавек атрымоўваў часцяком дулю, а за тое, што ён спрабаваў схаваць нешта асабістае ад грамадскасці і дзяржавы, яго валаклі на подыум. •

Ва ўспамінах Івана Шамякіна, надрукаваных у мінулым годзе, ежавая кампанента настальгіі выказаная больш выразна. Ён амаль захапляецца, колькі розных матэрыяльных дзівосаў атрымаў ад улады, якая ўмела яго, лаўрэата Сталінскай прэміі, апякаць і шанаваць. Апякунства ў творчасці, гэта вядома што. Але ж шчаслівыя маюць такую духоўную арганізацыю, што путаў не заўважаюць. І гэтая якасць застаецца на ўсё жыццё. Сведчанне таму новая аповесць Івана Пятровіча «Абмен», надрукаваная ў тым жа сшытку «Маладосці». Але не падумайце, гэта не кватэрны абмен. Гэта абмен мужамі і жонкамі: благая жонка добрага мужа выходзіць замуж за благога мужа, ды наадварот. У выніку благі пасылае сваю благую да лекара рабіць аборт, а добры адпраўляе добрую ў радзільны дом. Там на свет з'яўляецца істота, якую добры бацька, дзякуючы Богу, называе рэліктавым імем Славіна.

Вось вам настальгія на будучыню. А каб троху больш смеласці, магчыма б, і Сталінай назваў.

Пісьменнікі, кажаце?...

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**




КУРАПАТЫ

# Польшча не верыць хлусні

Амбасада Польшчы ў Мінску выказала «вялікае шкадаванне і абурэнне» хлуснёй, якую распаўсюдзіла Беларускае тэлебачанне пра падзеі ў Курапатах, што адбыліся там больш як паўстагоддзя таму.

19 красавіка Беларускае тэлебачанне пусціла ў эфір праграму Ігара Рудамётава «Эксгумацыя нянавісці», у якой, паводле заявы прэс-службы амбасады Польшчы, «была ўзята пад сумненне балючая гістарычная праўда аб злачынствах, здзейсненых НКУС у 1937-1941 гадах у Курапатах пад Мінскам». «Выступаючыя ў тэлеперадачы псеўдаэксперты надзвычай цынічна адмаўлялі той факт, што спраўцамі забойстваў беларусаў, палякаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў з'яўляліся сталінскія каты. Аўтары праграмы выкарыстоўвалі прэпарыраваныя «доказы» і, насуперак элементарнай логіцы і прынцыпам добрасумленнай журналістыкі, распаўсюдзілі хлусню, становячыся такім чынам прадаўжальнікамі самых змрочных прапагандысцкіх традыцый сталінізму», — гаворыцца ў заяве. Польская амбасада нагадвае, што аспрэчванне генацыду асуджаецца ўсім цывілізаваным светам, а «ў некаторых выпадках пераследуецца па законе».

**Рыгор БУЯН**

 

# *Liberum veto*: 1791 – 2001

## *Лукашэнкаўская канстытуцыя ў люстэрку Трэцямайскай*

*Варта лічыць за цуд, калі трэцяга траўня знайшлося ў Беларусі чалавек дзесяць, якія ўзгадалі пра Канстытуцыю, прынятую 210 гадоў таму. У нас і пра сучасную канстытуцыю лукашэнскага ўзору мала хто ведае, хоць у лістападзе 1996 года сходзілі на рэферэндум.*

Між тым Канстытуцыя 3 траўня 1791 года кардынальна паўплывала на гістарычны лёс нашага народа. Абвяшчэнне яе артыкулаў выклікала Другі падзел, паўстанне ў Польшчы, Беларусі, Літве і наступнае знікненне Рэчы Паспалітай з палітычнай карты свету напрыканцы 18 стагоддзя.

Але ўзгадаць Трэцямайскую канстытуцыю варта і па надзённых прычынах – найперш дзеля параўнання, наколькі ж мы прасунуліся наперад за 200 гадоў адносна зместу «асноўнага закона», па якім мусіць жыць дзяржава і цягнуць лямку народ.

Зразумела, што галоўнае ў канстытуцыях – артыкулы пра дзяржаўны лад і ўладу. Яны акрэсліваюць кола пануючых. У гэтых адносінах Канстытуцыя 1791 года арыентавалася на стварэнне цэнтралізаванай улады, а больш дакладна – канстытуцыйнай дынастычнай манархіі. Слова манарх, як і манах, манада, манокль, маюць коранем грэцкае слова «мона» – адзін. У адносінах да ўлады манарх азначае самаўладдзе. Да гэтага манарх у Рэчы Паспалітай быў асобай выбарнай (кароль польскі, вялікі князь літоўскі).

Наша Канстытуцыя 1996 года таксама стварыла сістэму вярхоўнай улады, якая ўзначальваецца манархам. У сённяшняй трактоўцы гэтага слова – прэзідэнтам, гарантам канстытуцыі, які мае права кіраваць пры дапамозе Указаў, якія потым Палаты Нацыянальнага сходу афармляюць як Закон.

Манархія, як вядома, можа быць асвечанай. У 1791 годзе манархам Польшчы, Беларусі і Літвы быў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, тыповы прадстаўнік эпохі Асветніцтва і адпаведна свайго часу добра адукаваны. Але манархія можа быць і неасвечанай. У выпадку асвечанасці манарха праводзяцца прагрэсіўныя рэформы і шануецца культура, у неасвечанага манарха найперш умацоўваюцца сілавыя ведамствы, а культура і наогул ідэалогія разглядаецца як служанка пры ўладзе. У Беларусі, на жаль, дзейнічае апошні варыянт. Дастаткова паслухаць прамовы кіраўніка нашай дзяржавы на селектарнай нарадзе ці дзе ў гасцях адносна хібаў дэмакратыі, каб не сумнявацца, што мы маем менавіта манарха неасвечанага.


Станіслаў Аўгуст Панятоўскі — апошні вялікі князь літоўскі і кароль польскі


Аляксандр Лукашэнка — цяперашні кіраўнік беларускай дзяржавы

Галоўнай заваёвай Канстытуцыі 1791 года была адмова ад *liberum veto* – «свабоднае забараняю». Менавіта гэтае правіла, якое лічылася найвышэйшым дасягненнем «шляхецкай вольнасці», прывяло да страты вальнымі соймамі магчымасці прымаць жыццяздольныя рашэнні. Дастаткова было хоць аднаму дэпутату крыкнуць на гатовы законапраект «не дазваляю» – і ўся падрыхтаваная падатковая, ваенная ці культурная рэформа ішла ў глум. Права *liberum veto* стварала выключныя ўмовы для маніпуляцыяў як унутраных магнацкіх груповак, так і знешняга ўплыву на палітычнае жыццё краіны. Суседзі Рэчы Паспалітай праз подкуп дэпутаванай на сойм шляхты стварылі пятую калону, якая зрывала любую карысную для дзяржавы соймавую пастанову. «Не дазвалям!» – было жудасным сімвалам крызісу краіны. Нарэшце ліквідацыя *liberum veto*, замацаванае ў Канстытуцыі, дазволіла прымаць простай бальшынёй галасоў законы, скіраваныя на карысць Рэчы Паспалітай. Сярод першых была пастанова аб павелічэнні войска з 18 тысяч (12 тысяч у Польшчы, 6 тысяч у Вялікім Княстве) да 100 тысячаў. Рэакцыяй на жаданне ўзмацніцца стала стварэнне пад апекай імператрыцы Кацярыны і на расійскай тэрыторыі Таргавіцкай канфедэрацыі шляхты, якой Расія дапамагла дзвюма арміямі. У верасні 1792 года Трэцямайская канстытуцыя страціла сілу, і «не дазваляю» вярнулася ў спажытак.

У гэтых адносінах сённяшняя Канстытуцыя Беларусі мае палярна іншы знак. Немагчыма ўявіць сабе хоць аднаго дэпутата Нацыянальнага сходу апошняга фармату, які шэптам вымавіць «не дазваляю» хоць на які ўказ ці дэкрэт начальніка дзяржавы. Крычаць «не дазваляю» – выключная прэрагатыва адзінай уладарнай асобы. Усе ейныя *liberum veto* агучваюцца па тэрытарыяльных адзінках праз прызначаных «вертыкальшчыкаў».

Прыняцце Канстытуцыі 1791 года было скіраванае на адраджэнне саслабелай дзяржавы і незалежнае ад волі рускіх, прускіх і аўстрыйскіх суседзяў існаванне.

На прынцыпы самастойнасці, незалежнасці, нацыянальных інтарэсаў, якія пазначаныя ў сённяшняй канстытуцыі Беларусі, цяпер накладзенае валадарнае *liberum veto*, і адфільтраваныя праз выбарчыя механізмы заканадаўцы сядзяць нема, як два стагоддзі таму сядзеў «немы сойм» у Гродне. Ратыфікаваныя імі дамовы пра страту ўласнай валюты, уласнага рынку, уласнай знешняй палітыкі і нарэшце відавочнае падпарадкаванне войска РБ расійскаму кіраванню, паспешлівае «ўцяленне» ў расійскую дзяржаву выконваюць зараз тую ролю, што выконвалі арміі генерал-маёраў ад інфантэрыі Крэчэтнікава і Кахоўскага ў 1792 годзе.

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі аказаўся апошнім каралём Польшчы і апошнім вялікім князем літоўскім, паколькі пасля Трэцяга раздзелу Рэчы Паспалітай мусіў адмовіцца ад кароны, быў арыштаваны і адвезены ў Пецярбург. Усе беларускія губерні апынуліся ў складзе Расіі і ператварыліся неўзабаве ў Паўночна-Заходні край. Сёння найбольш апантаныя адэпты расійска-беларускай саюзнай дзяржавы шчыра дзеляцца сваімі планамі аб ператварэнні Беларусі ў восьмую федэральную акругу РФ, дзе замест прэзідэнта будзе крамлёўскі прадстаўнік.

Патрыятычныя крытыкі Трэцямайскай канстытуцыі называюць сярод яе хібаў тое, што яна ператварала Рэч Паспалітую ва ўнітарную дзяржаву, пазбаўляла Вялікае Княства (Беларусь, Літва) «самастойнасці». На жаль, гэта няпраўда. У 18-м стагоддзі наша гэтак званая самастойнасць выяўлялася хіба толькі ў безупыннай барацьбе тутэйшых магнацкіх груповак. Радзівілы, Сапегі, Агінскія, Пацы, Чартарыскія на працягу па меншае двух стагоддзяў не здолелі знайсці агульную мову, каб выставіць са свайго кола валадара на трон Вялікага Княства. Наадварот, яны пільнавалі, каб хто з іх не высунуўся наперад, і бясконцыя гэтак званыя «хатнія войны» паміж групоўкамі пад гучнымі заклікамі «абароны рэспубліканскага ладу» вынікалі з жадання забіць ці хоць падрэзаць крылы таму, хто высунуўся. Здаецца, гэтая хвароба ёсць невылечная ў нашым грамадстве, і дэвіз «Калі не я – дык ніхто!» напаўняе лютымі пачуццямі не адно пыхлівае сэрца.

Канстытуцыя 1791 года адмаўляла выбарнасць караля, таму ўвесь наладжаны механізм грашовага ўплыву на групоўкі на элекцыйных соймах руйнаваўся. Такое не даруецца, і тры абсалютныя манархіі — Расія, Прусія, Аўстрыя — кінуліся зброяй бараніць «шляхецкія вольнасці» ў чужой краіне, без якіх чужы ўплыў не мог выконвацца. Гэта вельмі нагадвае сённяшні клопат Расіі пра рускамоўнае насельніцтва ў «блізкім замежжы» і патрабаванні для яго дзяржаўнага статусу рускай мовы ў былых рэспубліках СНГ.

Канстытуцыя 1791 года абвясціла роўнасць веравызнанняў. Праз 210 гадоў у час засваення космасу і навуковай карціны свету наша краіна насуперак канстытуцыйным палажэнням (Беларусь – свецкая дзяржава) на ўзроўні дзеячаў вярхоўнай улады абвяшчаецца краінай праваслаўнай, а іншым хрысціянскім вераванням ствараецца рэжым неспрыяльнасці. Ці праваслаўная царква бярэ рэванш за няўдачы ў сярэднявеччы?

За 210 гадоў шмат што змянілася на нашай зямлі, але вось у сферы дзяржаўна-палітычнага жыцця, у правілах панавання тых, хто атрымаў выбарную ўладу на пяць гадоў, бачнае жаданне вярнуцца да той часткі Трэцямайскай канстытуцыі, якая адмяняла выбарнасць манарха. Чалавечая прырода і прырода ўлады за два стагоддзі не пацярпелі ў нас зменаў, змянілася толькі па модзе часу рыторыка – гэтае адзенне думак.

**Канстанцін МАТУСЕВІЧ**

# Наказ БАЦЬКАЎшчыны не выкананы!

## *Ці што замінае дрэннаму танцору?*

Дагуляліся! Усяго дзвюх сустрэчаў хапіла беларускай зборнай, каб з трэскам праваліць пастаўленую перад ёй задачу: напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі кроў з носу ўвайсці ў васьмёрку лепшых камандаў. Паразы ад чэхаў і швейцарцаў на самым старце, адпаведна з лікам 1:5; 2:5, пусцілі нашым добрую юху і сталі шлагбаўмам на шляху да гэтай мэты. Нават перамога ў невырашальным матчы над гаспадарамі-немцамі – з лікам 2:0 – не змагла як-небудзь яго зварушыць. Казка пра беларускі хакей скончылася!

Сёння, заўтра і яшчэ 7 траўня спорт № 1 у нашай рэспубліцы чакае амаль гамлетаўскае «быць ці не быць?» у «паразнай» групе, калі чатыры няўдачнікі — беларусы, японцы, нарвежцы і латышы – будуць аспрэчваць ...наццатыя месцы. Дакладней, з трынаццатага па шаснаццатае.

Больш за тое, каманды, якія ў гэтым «міжсабойчыку» будуць трэцімі ці чацвёртымі, на два гады пакінуць эліту. На жаль, шанцы апынуцца сярод іх ёсць і ў выхаванцаў Анатоля Варывончыка.

Прабачце, але які дурань патрабаваў ад іх месца не ніжэй за восьмае? Нельга ахапіць неабсяжнае: падставаў для гэтага, як бачым, ні было ніякіх.

Зборная Беларусі толькі аднойчы, у год свайго дэбюту ў вышэйшай лізе, заняла менавіта гэты радок у табліцы, потым двойчы запар саступала на прыступку ніжэй. Дык што вымушала спадзявацца на ўздым яшчэ вышэй?

Каторы год нашая зборная гуляе практычна ў адным і тым жа складзе, сярэдні ўзрост якога вышэй за 34 гады. Так, могуць у любой камандзе бліснуць некалькі сталых і вопытных спартсменаў, але калі яна цалкам складзеная з ветэранаў – гэта не добра. І з кожным сезонам «дзядкі» зусім не прыбаўляюць у майстэрстве, таму што большасць беларускіх зборнікаў выступаюць у складах «заштатных» камандаў розных краінаў, скажам так, яны дагульваюць свой хакейны век. Зборная ўвесь час карыстаецца старым тэарэтычным багажом, адсутнічаюць новыя ідэі ў трэнераў, няма каштоўных знаходак у стратэгіі і тактыцы, адсутнічае сувязь паміж юнацкай, юніёрскай і галоўнай зборнымі. Я ўжо не кажу пра перашкоды з боку дзяржавы, якая, адзін толькі прыклад, не дазваляе беларускім клубам стаць самастойнымі суб'ектамі гаспадарання.

Можна яшчэ адшукаць мноства іншых прычынаў заняпаду хакею. Разумеюць гэта ўсе, ды не вельмі хто спяшаецца дапамагчы.

А як можна пракаментаваць словы аднаго з беларускіх хакеістаў, які ў час прэс-канферэнцыі пасля паражэння ў другім матчы адкрыў нам яшчэ адну непрывабную старонку з жыцця зборнай, калі адзначыў, што ён так і не зразумеў, навошта былі патрэбныя таварыскія сустрэчы са слабымі камандамі. Ніколі з боку трэнераў ён так і не пачуў, як паводзіць сябе на пляцоўцы, напрыклад, пры гульні ў большасці ці меншасці, якой схемы прытрымлівацца ў той ці іншай сітуацыі, якія абавязкі выконваць.

Адным словам, усё састарэла ў нашым хакеі.

А тут яшчэ не змаглі выступіць два форварды – Цыплакоў ды Бекбулатаў.

І, нарэшце, паспрабуйце знайсці ў свеце яшчэ адзін нацыянальны чэмпіянат, у якім ніводны з яго ўдзельнікаў(!) не трапіў у галоўную каманду краіны. Тады навошта марнаваць грошы? Толькі дзеля таго, каб кіраўнікі гэтых клубаў мелі асабістыя сотавыя тэлефоны і па некалькі прэстыжных аўтамабіляў, у той самы час, калі на двух гульцоў, і гэта яшчэ добра, знойдзецца толькі адзіная клюшка?!

Так і гуляюць нашыя «старычкі» праз «не магу», спакусіўшыся на высачэнныя ганарары, якія ім абяцаюць і спраўна выплачваюць. А крыніцаў юных талентаў яшчэ не знайшлі, таму і будзем мець, што маем.


Фота Ул. ШЛАПАКА
Прыблізна вось так выглядае «месца, ніжэй за дванаццатае».

Нашмат больш маладыя, перспектыўныя і, галоўнае, – таленавітыя – супернікі (тыя ж, напрыклад, швейцарцы, у складзе якіх гуляе, дарэчы, толькі некалькі «легіянераў», астатнія – свае, тутэйшыя) не даюць нам перадыху і ўсё часцей літаральна здзекуюцца над «абыякавымі да гульні беларусамі». А калі ў апошніх яшчэ зусім няма настрою, адсутнічае бляск у вачах, ды, як гаворыць той жа Андрэй Скабелка, яны зусім не ведаюць, што рабіць на пляцоўцы – атрымліваюцца жудасныя прабоіны.

І не трэба тут шукаць вінаватых, плявузгаць на дрэннае суддзейства, на мяккі ці, наадварот, цвёрды лёд(?), спасылацца на нейкія доўгія (у цэнтры Еўропы, у Германіі?) авіяпералёты, ці сачыць, хто і як зірнуў у твой бок. І ўвогуле, прафесіяналам-спартсменам трэба памятаць словы караля футбола Пеле, які ўвесь час гаварыў: «Заб'юць табе два галы, а ты, у адказ, забі тры!»

А калі так у нашых майстроў не атрымліваецца, дык «нам такі хакей не патрэбны».

Праз год у тым жа складзе мы зноў накіруемся за гэтым залатым руном, восьмым месцам, але ўжо на зімовую Алімпіяду ў Солт-Лейк-Сіці. І, што цікава, сустрэнемся спачатку з тымі ж швейцарцамі! І мы, і яны да таго часу яшчэ на год памужнеем ці састарэем – каму як! – і чыёй зборнай гэта больш пойдзе на карысць, не цяжка здагадацца.

Відавочна, што з кожным годам сітуацыя з беларускім хакеем горшае. І толькі будаўніцтвам лядовых палацаў яе не палепшыць.

Ёсць такі тэрмін у кінематаграфіі – «сыходзячая натура». Дык вось, хутка завершыцца 65-ы чэмпіянат свету. І вельмі не хацелася б, каб з яго заканчэннем сышоў увогуле і беларускі хакей!

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1705 Нумар падпісаны ў друк 3/05/2001 (15:00) Наклад – 9.710